№8(152)
Красавік 2004

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна"

## Перасьлед працягваецца

23 красавіка ў Тацяны Процька,старшыні грамадзкай арганізацыі "Беларускі Хельсінскі камітэт", узятая падпіска аб нявыезьдзе. Пра гэтае рашэньне Т.Процька паведаміў сьледчы А. Залеўскі. Напярэдадні БХК падаў зыск у Гаспадарчы суд Менску аб прызнаньні рашэньня інсьпекцыі Міністэрства падаткаў і збораў па Маскоўскім раёне сталіцы аб накладаньні санкцыяў на БХК цалкам несапраўдным. " Міжнародная Хельсінская Федэрацыя лічыць, што крымінальная справа супраць БХК мае яўную палітычную матывацыю і заклікае зьняць усе абвінавачаньні з праваабаронцаў.

## Арыштаваны Міхаіл Марыніч

У ноч з 26 на 27 красавіка быў арыштаваны Міхаіл Марыніч – былы міністр зьнешнеэканамічных сувязяў Беларусі, былы пасол Беларусі ў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі. 26 красавіка Міхаіл Марыніч у 15.00 быў запрошаны на допыт у Камітэт дзяржаўнай бясьпекі. Увечары пачаўся вобыск на дачы, пасьля якога быў канфіскаваны архіў, а М.Марыніч затрыманы па падазрэньні ва ўчыненьні крымінальнага злачынства.

28 красавіка раніцай у КДБ былі выкліканыя сыны М. Марыніча Павел і Ігар. Пасьля размоваў з імі сьледчыя правяліператрус у гаражы П. Марыніча.Ператрус працягваўся больш за тры гадзіны і завяршыўся канфіскацыяй некаторых дакументаў арганізацыі "Дзелавая ініцыятыва", якой кіраваў М. Марыніч.

П. Марыніч паведаміў пра размову адваката і бацькі са сьледчымі КДБ. Падчас гэтай размовы экс-міністр патлумачыў паходжаньне нібыта знойдзеных у яго на лецішчы 90 тысячаў даляраў, двух пісталетаў і сакрэтных дакументаў...



Фота "ПнВ"

# Дзень нашай жалобы

26 красавіка ў Менску адбыўся традыцыйны "Чарнобыльскі шлях". Каля тысячы чалавек сабралася на плошчы Якуба Коласа. Удзельнікі шэсьця і мітынгу трымалі плакаты з надпісамі: "Час скончыць эпоху палітычнага Чарнобылю", "Спыніць выраб радыеактыўных прадуктаў" і інш., у якіх асуджаліся апошнія выступы А. Лукашэнкі, які наведаў пацярпелыя пасьля аварыі на ЧАЭС раёны і заявіў, што там "чыста і можна вырошчваць цыбулю".

Міліцыянты папярэджвалі, што збор на плошчы Якуба Коласа забаронены. Але масавых затрыманьняў не было. Пасьля таго, як людзі паспрабавалі пачаць рух, зьявіліся амапаўцы, якія перакрылі шлях у бок цэнтру гораду. Яны ж паспрабавалі затрымаць лідэра АГП Анатоля Лябедзьку, але гэта ім не ўдалося. Калона па прасьпекце Ф. Скарыны накіравалася да Акадэміі навук. Пасьля павароту з прасьпекту на вуліцу Сурганава на чале

(Працяг на стар 2)


Фота "ПнВ"


Фота "ПнВ"

**Калонка рэдактара**

# Маўчаньне ягнятаў

**Калі б мы ведалі і верылі, што тое, якім быць нашаму жыцьцю, залежыць толькі ад нас саміх – ня скажу пра ўвесь сьвет, але Беларусь была б іншай краінай. Калі б мы ведалі і верылі, што супраць бяздушнага цынізму і хамства, якое зараз прэ ад беларускіх уладаў, дзейсная толькі арганізаваная сіла народу – усё было б па-іншаму.**

**Вось у цэнтры Менску разбураюць дом сям'і Янкі Купалы, а на месцы старажытных будынкаў, якія можна было б яшчэ аднавіць, уздоўж пракаветнай Нямігі будуюць краму з гаражамі – інтэлігенцыя маўчыць. Чыноўнікі з Міністэрства культуры, адказныя за захаваньне гістарычнай спадчыны, сарамліва хаваюць вочы: калі не падпішам, то звольняць з пасадаў, і ўвогуле – што ад нас залежыць... Культурніцкіх няўрадавых арганізацыяў, заклапочаных захаваньнем нашай спадчыны, як бы і няма, насельнікі суседніх кварталаў хоць і супраць, але маўчаць, баяцца, ня верачы ў свае сілы, ня ведаючы, што і ўлады баяцца, каб ніхто не выступіў адкрыта супраць, асабліва жыхары...**

**Вось праходзіць Чарнобыльскі Шлях – шлях за дэмакратыю ў Беларусі, які традыцыйна ладзіцца ў Менску з 1989 году. Ягоная сімволіка, хоць і прывязаная да чарнобыльскай катастрофы, але значна шырэйшая – гэта дэманстрацыя супраць таталітарызму, супраць сістэмы гвалту і прымусу, якая прывяла беларусаў да катастрофы. Выйшла на акцыю гэтым разам паўтары тысячы чалавек. Хоць у 1996 годзе – выходзіла 40 000. Вядома, сёлета Чарнобыльскі Шлях быў забаронены.**

**Звычайным грамадзянам забаранілі адкрыта выказвацца па чарнобыльскай праблеме. Нашто, калі ў нас ёсьць адзін чалавек, які выдае сябе за сьпецыяліста літаральна па ўсіх пытаньнях – і прамысловасьці, і сельскай гаспадаркі, і ідэалогіі, і ў адносінах з Расіяй і Эўропай, і ў сацыяльным забесьпячэньні, і спорце, і, натуральна, у Чарнобыльскіх праблемах. Як гаворыцца ў вядомай показцы, хутка бульбу будзе па урадавым тэлефоне перабіраць, бо без яго ня так зробяць... Ня ведаю, ці што зразумелі людзі з ягоных блытаных бясконцых інтэрв'ю, але тое, што ў чарнобыльскую зону вяртаецца інтэнсіўнае выкарыстаньне сельскагаспадарчых земляў, адпаведна, меліярацыя, што людзей будуць заахвочваць жыць і працаваць на гэтых землях – а значыць, хварэць ад радыяцыі і паміраць – пра гэта ён сказаў адкрыта. Гэта ягоная новая чарнобыльская палітыка, якая, дарэчы, датычыць усяго народу, бо харчы, вырашчаныя на чарнобыльскіх палетках, будзе спажываць уся Беларусь. А прафесар Бандажэўскі, які адкрыта выступаў супраць выкарыстаньня гэтых земляў, які паўсюль казаў пра паступовае накапленьне радыяцыі ў арганізме чалавека, што значна скарачае жыцьцё, сядзіць у турме.**

**І тым ня менш, людзі ня выйшлі на Чарнобыльскі Шлях. Бо кожны з тых, хто і выходзіў раней, ня верыць, што ад канкрэтна ягонага ўдзелу штосьці можа зьмяніцца. Апроч таго, могуць зьбіць, затрымаць, пазбавіць у далейшым працы.**

**Маўчаць настаўнікі і выкладчыкі ВНУ, на вачах якіх зьнішчылі нацыянальны ліцэй, а цяпер чарга дайшла да Еўрапейскага гуманітарнага універсітэту, маўчаць пісьменьнікі, якіх павыганялі з працы і пазачынялі беларускія часопісы, дзе яны працавалі.**

**Маўчаць сотні тысячаў рабочых, настаўнікаў, інжынераў, якіх зараз тэрмінова, з парушэньнем усіх магчымых і немагчымых законаў, улады пераводзяць на працу па кантракце. Разумеюць, што гэты гадавы кантракт – прыгон, кабала, рабства, бо за любое ня так сказанае слова, за любы ўчынак цябе выкінуць з працы на "законных" падставах, так што і ня вякнеш. Разумеюць, але маўчаць, бо баяцца, што можна страціць і тое, што маеш, ня верачы, што можна штосьці зьмяніць менавіта яму, аднаму, такому маленькаму чалавеку, ад якога нічога, зусім нічога не залежыць...**

**А.Б.**

# Дзень нашай жалобы

(Пачатак на стар.1)

Чарнобыльскага шляху" зьявіўся жалобны звон, які заўсёды гучаў падчас гэтых акцыяў, а потым і абраз – арганізатары шэсьця напачатку пабойваліся, што яго могуць канфіскаваць. На вуліцы Сурганава калона, да якой увесь час далучаліся людзі, упершыню выйшла на праезную частку, бо на ходніку зьмясьціцца не змагла.

На рагу вуліцаў Сурганава і Карастаянавай акадэмік Іван Нікітчанка прапанаваў ушанаваць памяць ахвяраў Чарнобылю хвілінай маўчаньня. Ён нагадаў пра наступствы катастрофы для здароўя беларускага народу. Потым выступілі Аляксандр Дабравольскі, Вінцук Вячорка і інш.

Арганізатарам шэсьця міліцыянты адразу ж уручылі позвы ў РАУС на раніцу 27 красавіка. Сярод тых, хто атрымаў позвы – Людміла Гразнова (АГП), Алесь Міхалевіч (намесьнік старшыні Партыі БНФ), Павел Знавец (БСДГ), Генадзь Быкаў (старшыня Свабоднага прафсаюзу).

***26 красавіка*** перад пачаткам акцыі "Чарнобыльскі шлях" Управа партыі БНФ была заблакаваная асобамі ў цывільным, якія перашкаджалі выезду транспарату і затрымлівалі людзей, што выходзілі з будынку. Спачатку каля Управы быў затрыманы польскі журналіст, які паказаў журналісцкае пасьведчаньне і быў адпушчаны.

(Працяг на стар 7)


Фота "ПнВ"


Фота "ПнВ"



Фота "ПнВ"


Фота "ПнВ"

# Вацлаў АРЭШКА: "Трэці сектар цяпер больш кансалідаваны"

***1-2 траўня ў Менску адбыўся V Кангрэс Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі. У ім узялі ўдзел 260 чалавек, з іх — 220 дэлегатаў. На Кангрэсе актыўна абмяркоўваўся ўдзел няўрадавых арганізацыяў у парламенцкіх выбарах 2004 году. Большасьць удзельнікаў форуму пагадзілася з тым, што супрацоўніцтва з палітычнымі структурамі падчас будучай выбарчай кампаніі неабходнае. Больш падрабязна пра падрыхтоўку арганізацыяў "трэцяга сектару" да маючых адбыцца выбараў чытачам "Права на Волю" распавядае намесьнік старшыні рабочай групы Асамблеі НДА, кіраўнік Грамадзянскай ініцыятывы "Культурны кантакт", сябра грамадзкага аб'яднаньня "Дыярыюш" Вацлаў АРЭШКА.***

***— Сп. Вацлаў, раскажыце, калі ласка, якой будзе праца беларускіх НДА падчас выбарчай кампаніі.***

— На Кангрэсе была дасягнутая згода арганізацыяў, якія ўваходзяць у Асамблею, на тое, што яны будуць прымаць удзел у выбарчай кампаніі. Зразумела, што нашыя арганізацыі ня будуць браць на сябе палітычныя функцыі. Яны будуць выконваць сваю грамадзкую справу, што для многіх зьяўляецца статутнымі функцыямі. Арганізацыі сацыяльнага накірунку могуць браць удзел у арганізацыі насельніцтва праз сацыяльныя кампаніі. Увогуле, накірункаў працы вельмі шмат. Я спадзяюся, што ўдзел трэцяга сектару ў парламенцкіх выбарах будзе больш шырокім і разнастайным, чым на мінулых прэзідэнцкіх. Тады грамадзкія арганізацыі ў асноўным займаліся двума справамі – назіраньнем і мабілізацыяй.

***— Што ж новае будзе гэтым разам?***

— Да прыкладу, кампанія мабілізацыі насельніцтва ня будзе кіравацца з нейкага цэнтральнага штабу. Грамадзкія арганізацыі самі будуць выбіраць, як ім працаваць, у якіх мерапрыемствах браць удзел. Грамадзкія арганізацыі ўжо зараз уплываюць на канчатковае рашэньне па асобе кандыдатаў ад адзінага сьпісу. Мы лічым, што кандыдаты павінны быць прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасьці, а ня толькі палітычных партыяў. Тут голас грамадзкіх арганізацыяў павінен быць вельмі важкім.

На Кангрэсе была выказаная ідэя пра стварэньне Фонду ўзаемнай дапамогі. Вядома, што падчас палітычных і грамадзкіх кампаніяў многія ўдзельнікі адчуваюць ціск з боку ўладных структураў, становяцца ахвярамі перасьледу. Шмат людзей губляюць працу, ім прысуджаюць штрафы, узьнікаюць іншыя праблемы. Зараз ёсьць арганізацыі, якія дапамагаюць у такіх выпадках. Але ўдзельнікі Кангрэсу выказалі меркаваньне, што варта мець агульнанацыянальны фонд, з якога можна было б дапамагаць пацярпелым. Гэтая дапамога можа быць у выглядзе аздараўляльных паездак, сацыяльных праграмаў і акцыяў, што будуць накіраваныя на карысьць тым людзям, што пацярпелі.

Мы будзем шукаць розныя шляхі і я думаю, што калі такая структура створыцца, то ўдзельнікам выбарчай кампаніі — назіральнікам і актывістам – будзе прасьцей прыняць рашэньне пайсьці працаваць на выбарах.

***— Ці былі, на ваш погляд, нейкія памылкі падчас мінулых выбарчых кампаніяў, якія трэба ўлічыць цяпер?***

— Асноўная памылка, якая, спадзяюся, ня будзе паўтораная на гэтых выбарах, гэта тое, што раней палітычныя сілы не былі па-сапраўднаму кансалідаваныя. У выніку падчас тых жа прэзідэнцкіх выбараў практычна не было адзінага кіраўніцтва. Былі толькі нейкія штабы ды цэнтры. Таму грамадзкі сектар быў вымушаны прыняць на сябе асноўны ўдар і асноўны цяжар працы – збор подпісаў, назіраньне... Партыі гэтым практычна не займаліся. Грамадзкі сектар пацярпеў больш за ўсіх. Ён прыняў на сябе асноўны цяжар рэпрэсіяў.



Фота "ПнВ"

Цяпер, калі фармуецца больш кансалідаваная палітычная сіла, грамадзкаму сектару будзе прасьцей працаваць. "Пяцёрка-плюс" – гэта ня толькі саюз некалькіх палітычных партыяў, гэта па-сутнасьці рух, у якім могуць знайсьці сабе месца і іншыя арганізацыі, і асобныя людзі. Паколькі няма фіксаванага сяброўства, то кожны можа проста дадаваць свой унёсак у агульную працу. Калі ўсе высілкі будуць скіраваныя ў адным напрамку, то я думаю, што могуць сфармавацца ўмовы дзеля супольнай працы на выбарах. Гэта датычыць і мабілізацыі насельніцтва, і працы ў кампаніях саміх кандыдатаў, дзе заўсёды актыўны ўдзел прымаюць актывісты грамадзкіх арганізацыяў.

***— Якое месца на гэтых выбарах будзе займаць кампанія назіраньня?***

— І грамадзкія арганізацыі, і палітычныя сілы прынялі рашэньне, што ў кампаніі назіраньня будуць задзейнічаныя актывісты партыяў, каманды кандыдатаў. Агульнае кіраўніцтва гэтай кампаніі будзе ў руках палітычных сілаў, але грамадзкі сектар традыцыйна меў тут свой кавалак працы, найперш метадычна-адукацыйны. Думаю, што так будзе і гэтым разам.

***— Ці падтрымліваюць у рэгіёнах гэтую праграму?***

— На Кангрэсе было больш за 200 удзельнікаў. Пераважная колькасьць людзей была менавіта з рэгіёнаў. Не было жорсткіх спрэчак, не было дэмаршаў. Меркаваньні былі даволі адзінадушныя. Пасьля гэтай сустрэчы можна сказаць, што цяпер дэмакратычны трэці сектар больш кансалідаваны. Ёсьць узаемапаразуменьне, ёсьць жаданьне плённа папрацаваць.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ.**

## Канстытуцыя - не закон...

**23 красавіка Наваполацкі гарвыканкам забараніў мітынг з удзелам прадстаўнікоў передвыбарчага блоку "Пяцёрка+". Заяўка на правядзеньне мітынгу была пададзеная яшчэ 6 красавіка. Ён мусіў адбыцца на пляцы ля гарадзкога палацу культуры, які вызначаны гарадзкімі ўладамі дзеля падобных акцыяў, аднак падавальнік заяўкі, праваабаронца Зьміцер Салаўёў, атрымаў афіцыйную паперу аб забароне мерапрыемства. Прычына забароны ў лісьце тлумачыцца так: "Да заявы не прыкладзенае абавязацельства ў пісьмовай форме арганізатара альбо асобы, адказнай за арганізацыю і правядзеньне масавага мерапрыемства, па арганізацыі і правядзеньні масавага мерапрыемства". Паводле спадара Салаўёва, гэта супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая гарантуе грамадзянам свабоду правядзеньня сходаў і мітынгаў.**

# "Прымусова-добраахвотная" сістэма дзяржкантролю

## альбо Дзеля чаго ўводзяцца працоўныя кантракты

***Перавод працоўных і служачых нашай краіны на кантрактную сістэму набыў апошнім часам масавы характар. У сувязі з гэтым дзясяткі людзей з усіх куткоў Беларусі зьвяртаюцца ў Праваабарончы цэнтр "Вясна" з пытаньнямі наконт новаўвядзеньня. Іх цікавіць, ці можна адмовіцца ад заключэньня такога кантракту, якая ўвогуле працэдура падпісаньня кантракту і, нарэшце, чаму кантракты заключаюцца толькі на адзін год, а не на пяць і ці не зьяўляецца прымусовы перавод на кантракты парушэньнем працоўных правоў грамадзянаў краіны... І таму мы вырашылі прысьвяціць адну з тэмаў гэтага нумару менавіта праблеме пераходу на кантрактную сістэму працы і паспрабавалі адказаць на некаторыя пытаньні, што найбольш хвалююць нашых чытачоў.***

Масавы, здаецца, нічым не абгрунтаваны перавод працоўных і служачых краіны на кантрактную аснову нагадвае добра спланаваную і арганізаваную ўладамі кампанію. Прычым, кантракты ў большасьці выпадкаў заключаюцца толькі на адзін год. Да таго ж, ёсьць выпадкі, калі раней заключаныя кантракты тэрмінам на пяць год перазаключаюцца на новы тэрмін, зразумела – на адзін год... Дарэмнымі былі нашыя намаганьні знайсьці хаця б нейкі нарматыўна-прававы акт аб неабходнасьці пераводу ўсіх працоўных краіны на гадавыя кантракты. Такога дакументу проста няма. Усё як заўсёды адбываецца выключна "добраахвотна" і, як казалі ў савецкія часы, "па шматлікіх просьбах працоўных". Відавочна, што ініцыятыва аб пераводзе на кантракты зыходзіць з адміністрацыі прэзідэнта, якая праз сваю выканаўчую вертыкаль настойліва "рэкамендуе" адміністрацыям прадпрыемстваў і ўстановаў ажыцьцяўляць перавод сваіх супрацоўнікаў на кантракты. Прычым робіцца ўсё гэта са спасылкай на дужа цікавы "дакумент" – Пратакол-даручэньне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24.12.2004 № 49 па выніках стала дзеючага семінару кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых органаў кіраваньня "Кадры кіравання ў сучасных умовах", які адбыўся 20-21.11.2003 г. На жаль, тэксту самога даручэньня знайсьці не ўдалося, бо гэта не нарматыўна-прававы акт і ў адпаведным дзяржаўным рэестры не зарэгістраваны. Любіць наш прэзідэнт апошнім часам выдаваць цікавыя дакументы, прававы статус якіх не зусім зразумелы – то дырэктыву напіша, то даручэньне... Але чаму пераводы на кантракты набылі татальны характар, якая небясьпека за гэтым хаваецца і што трэба ведаць, калі вас пераводзяць на кантракт? Для гэтага давайце спачатку разьбярэмся што ж такое кантракт. Зьвернемся да гісторыі "праблемы".

### Што такое кантракт?

Права заключаць кантракты з працаўнікамі было нададзенае наймальніку згодна з Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26.06.1999 г. № 29 "Аб дадатковых мерах па ўдасканаленьні працоўных адносінаў, узмацненьні працоўнай і выканаўчай дысцыпліны". Раней кантракты заключаліся з некаторымі катэгорыямі працаўнікоў (кіраўнікамі прадпрыемстваў, асобамі, якія маюць права на поўную пенсію і інш).



Кантракты могуць заключацца як пры прыёме на працу новых супрацоўнікаў, так і з тымі, хто працуе па бестэрміновай працоўнай дамове. Пры гэтым трэба памятаць, што заключэньне кантракту павінна адбывацца ў сувязі з абгрунтаванымі вытворчымі, арганізацыйнымі ці эканамічнымі прычынамі, пра што працаўнік павінен быць пісьмова папярэджаны за месяц. Заканадаўствам таксама ўстаноўлена, што кантракт, як від працоўнай дамовы заключаецца ў выпадках, калі працоўныя адносіны ня могуць быць устаноўленыя на нявызначаны тэрмін з улікам характару працы ці ўмоваў яе выкананьня. Адпаведна няма ніякай працоўнай неабходнасьці пераводзіць на кантракт токара ці фрэзероўшчыка на заводзе ці прыбіральшчыцу, іншых працоўных і служачых, чыя праца, яе характар, дазваляе рэгуляваць працоўныя адносіны з наймальнікам па бестэрміновай працоўнай дамове. Дык што ж такое кантракт?

Кантракт – працоўная дамова, якая заключаецца ў пісьмовай форме на вызначаны ў ёй тэрмін і ўтрымлівае асаблівасьці ў параўнаньні з агульнымі нормамі заканадаўства аб працы, а таксама прадугледжвае канкрэтную мінімальную кампенсацыю за пагаршэньне прававога стану працоўнага.

Якія ж "асаблівасьці" ўтрымлівае кантракт у параўнаньні з агульнымі нормамі заканадаўства, у чым яны заключаюцца? У параўнаньні з Працоўным кодэксам кантракт як від тэрміновай працоўнай дамовы прадугледжвае пагаршэньне прававога статусу працоўнага. Гэтае пагаршэньне заключаецца ў тым, што наймальнік мае права спыніць працоўныя адносіны з працаўніком па заканчэньні тэрміну дзеяньня кантракту без усялякіх тлумачэньняў і ўказаньня дадатковых умоваў, а працоўны ня можа звольніцца па асабістым жаданьні на працягу ўсяго тэрміну дзеяньня кантракту. Ёсьць толькі некалькі падставаў дзеля спыненьня дзеяньня кантракту па затрабаваньні працаўніка да заканчэньня тэрміну, на які ён заключаны (датэрмінова). Гэтыя абставіны выкладзеныя ў арт. 41 ПК Рэспублікі Беларусь (хвароба альбо інваліднасьць, якая перашкаджае выкананьню працы па працоўнай дамове, а таксама парушэньне наймальнікам заканадаўства аб працы, калектыўнай альбо працоўнай дамовы, пры гэтым такія парушэньні мусяць быць устаноўленыя адмыслова ўпаўнаважаным дзяржаўным органам нагляду за выкананьнем заканадаўства аб працы, прафсаюзамі ці судом).

Мінімальны тэрмін кантракту адзін год, а максімальны – пяць гадоў. Канкрэтныя тэрміны дзеяньня кантракту вызначаюцца пагадненьнем бакоў. Але

на практыцы гэта значыць, што тэрміны вызначае наймальнік. Ня хочаш падпісваць – не падпісвай і звальняйся.

Як бачым, пагаршэньні ўмоваў працаўніка вельмі істотныя, наймальнік можа звольніць яго як падчас дзеяньня катракту (па абставінах, пазначаных у ПК і ў самім контракце), так і пасьля яго заканчэньня. Пры гэтым ніякіх кампенсацыяў па звальненьні ў сувязі з заканчэньнем контракту не прадугледжваецца. Адзіны выпадак, калі працаўніку выплочваецца кампенсацыя ў памеры трох сярэднемесячных заробкаў, – датэрміновае рскасаваньне кантракту ў сувязі з невыкананьнем яго ўмоваў па віне наймальніка (згодна з п.2 Пастановы Савету Міністраў "Аб зацьвярджэньні прыкладнай формы кантракту наймальніка з працаўніком" ад 2.08.1999 г. №1180). Адзначым, што гэты пункт не распаўсюджваецца на асобаў, што дасягнулі пенсійнага ўзросту.

Можна толькі ўявіць, наколькі гэта зручная для наймальніка, для ўладаў наогул, сістэма. Цяпер можна звольніць любога няўгоднага супрацоўніка і зрабіць гэта вельмі проста — не працягнуць яму кантракт на наступны год. Усё законна, і ніякіх тлумачэньняў не патрэбна. Ніякі суд не адновіць, а ПК з ягонымі гарантыямі можна выкінуць у сьметніцу. Можна спакойна расправіцца і з прафсаюзным "крыкуном", і з апазіцыйным "адмарозкам" і проста з непрыемным для начальства чалавекам, які шмат правоў "качае" ці проста не падабаецца. Сістэма ўсеагульнага кантролю.

А што ж узамен? А ўзамен кантракт павінен прадугледжваць дадатковыя ўмовы стымуляваньня працы (згодна з п. 2.5. Дэкрэту) сярод якіх:

— прадастаўленьне дадатковага захвочваючага адпачынку з захаваньнем сярэдняй заработнай платы да пяці каляндарных дзён;

— падвышэньне тарыфнай стаўкі (ня больш чым на 50%, калі большы памер не прадугледжаны заканадаўствам).

Трэба адзначыць, што наймальнікі вельмі "ашчадна" ставяцца да гэтых дадатковых умоваў стымуляваньня працы: дадаюць адзін дзень да адпачынку і 1% да заробку. Вельмі часта наймальнікі наогул не ўключаюць у кантракт ніякіх дадатковых умоваў, спасылаючыся на адсутнасьць грошай. У такім выпадку кантракт супярэчыць патрабаваньням дзеючага заканадаўства і ў першую чаргу палажэньням Дэкрэту № 29. Вельмі часта ў кантрактах адсутнічаюць пункты аб тым, што на супрацоўніка распаўсюджваюцца палажэньні заключанай калектыўнай дамовы паміж прафсаюзнай арганізацыяй (сябрам якой зьяўляецца працаўнік) і наймальнікам.

## *Што рабіць, калі Вам прапанавалі перайсьці на кантракт?*

Наймальнік мае права прапанаваць перайсьці на кантракт ня толькі новапрынятаму на працу, але і таму, хто працуе на падставе бестэрміновай працоўнай дамовы. Што трэба ведаць, калі вам прапанавалі перайсьці на кантракт. Па першае, трэба памятаць, што аб намеры перавесьці вас на кантракт наймальнік павінен пісьмова паведаміць вам за месяц да пераводу на кантракт. Падкрэсьліваем: менавіта ў пісьмовай форме. У пісьмовым паведамленьні аб намеры заключыць з вамі кантракт вы маеце права паставіць подпіс і дату ўручэньня яго. У тэксьце паведамленьня мусіць быць указаны тэрмін пачатку месячнага папярэджаньня і яго заканчэньня, а таксама інфармацыя аб тым, што ў выпадку адмовы ад пераходу на кантракт вы будзеце звольненыя па п.5 арт. 35 ПК Рэспублікі Беларусь (адмова працягваць працу ў сувязі са зьменамі істотных умоваў працы). Паведамленьне павінна мець рэгістрацыйны нумар, подпіс, пячатку. Адзін асобнік паведамленьня павінен захоўвацца ў вас, другі – у канцылярыі наймальніка. Невыкананьне наймальнікам гэтых працэдураў можа пацягнуць прызнаньне пераводу на кантракт не адпавядаючым патрабаваньням заканадаўства. Памятайце, што перавод на кантракт павінен быць матываваны. Нельга пераводзіць на кантракт толькі таму, што ў краіне адбываецца кампанія пад назвай "Даеш кантракт!" У п.20 Пастановы Пленуму Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 29.03.2001 № 2 "Аб некаторых пытаньнях выкарыстаньня судамі заканадаўства аб працы" даецца растлумачэньне, што маецца на ўвазе пад тэрмінам працоўнай і вытворчай неабходнасьці. Згодна з п.2 Пастановы "зьмены істотных умоваў працы павінны быць матываваныя вытворчымі, арганізацыйнымі ці эканамічнымі прычынамі, якія выражаюцца, у прыватнасьці, у рацыяналізацыі працоўных месцаў, зьменаў тэхнікі і тэхналогіі вытворчасьці, увядзеньнем новых формаў арганізацыі працы, удасканаленьнем працоўных месцаў на падставе атэстацыі". Зразумела, што для наймальніка не складае вялікіх цяжкасьцяў указаць, што ён пераводзіць вас на кантракт у сувязі з рацыяналізацыяй вашага працоўнага месца, але ў шэрагу выпадкаў гэта проста немагчыма. Як патлумачыць неабходнасьць пераводу на кантракт выхавацелькі ў дзіцячым садку ці прыбіральшчыцы, альбо нават рабочага заводу? У большасьці выпадкаў патрабаваньне матываванасьці пераводу на кантракт наогул ігнаруецца наймальнікам. І дарма, бо згодна з арт. 35 ПК Рэспублікі Беларусь адсутнасьць доказаў, якія пацьвярджаюць абгрунтаваныя вытворчыя, арганізацыйныя ці эканамічныя прычыны пераводу на кантракт, робяць далейшае звальненьне па п.5 арт. 35 ПК Рэспублікі Беларусь незаконным.

Пасьля таго як вы атрымалі паведамленьне, у вас ёсьць два варыянты дзеяньняў: даць згоду на перавод на кантракт ці адмовіцца. У выпадку адмаўленьня ад пераводу на кантракт вы будзеце звольненыя па п.5 арт. 35 ПК Рэспублікі Беларусь. Звальненьне па гэтым артыкуле прадугледжвае выплату двухтыднёвай выходнай дапамогі, але не прадугледжвае захаваньня гарантыяў для некаторых катэгорыяў працаўнікоў, прадугледжаных нормамі ПК Рэспублікі Беларусь: для цяжарных жанчын і жанчын, што маюць непаўнагадовых дзяцей; працаўнікоў, маладзейшых за 18 гадоў; гарантыі прафсаюзных служачых. Справа ў тым, што звальненьне па гэтым артыкуле не зьяўляецца звальненьнем па ініцыятыве наймальніка.

У выпадку, калі вы вырашылі падпісаць кантракт, вы мусіце ведаць, што пункты кантракту павінны быць узгодненыя паміж вамі і наймальнікам, у тым ліку і тэрмін, на які ён заключаецца. Таксама кантракт павінен утрымліваць дадатковыя меры стымуляваньня працы (дадатковы адпачынак да 5 дзён з захаваньнем заробку і інш.). Не дапускаецца заключэньне кантракту тэрмінам менш чым на адзін год. Звальненьне працаўніка па заканчэньні кантракту, залючанага тэрмінам менш чым на адзін год, будзе прызнанае судом як незаконнае, а працаўнік адноўлены на працы з выплатай кампенсацыі за вымушаны прагул і кампенсацыяй маральных стратаў у адпаведнасьці з нормамі ПК Рэспублікі Беларусь. Вельмі часта такія кантракты заключаюць з асобамі перадпенсійнага і пенсійнага ўзросту. Ні Дэкрэт № 29, ні іншыя нарматыўныя акты не прадугледжваюць такога права. Мінімальны тэрмін у адзін год устаноўлены для ўсіх катэгорыяў працоўных без выключэньня. Згодна з п.5 Палажэньня аб парадку і ўмовах заключэньня кантрактаў наймальнікамі з працаўнікамі (зацьверджанае Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 25.09.1999г. № 1476) канкрэтны тэрмін кантракту вызначаецца па згодзе бакоў. Зыходзячы з гэтага, пасьля таго як атрымалі паведамленьне аб пераводзе на кантракт, вы можаце напісаць заяву на імя кіраўніка прадпрыемства аб тым, што ня супраць перайсьці на яго, але хочаце ведаць, чым перавод матываваны і просіце тэрміны, дадатковыя сацыяльна-бытавыя ільготы (п.11 Палажэньня) ўзгадніць з вамі. Заяву абавязкова зарэгіструйце у канцылярыі, другі асобнік пакіньце ў сабе. Лепей, калі такія ж заявы напішуць усе вашыя калегі па аддзелу, цэху, іншай арганізацыйнай структуры. Разам вам будзе прасьцей аказваць ціск на адміністрацыю прадпрыемства, патрабуючы заключыць кантракт з вамі не на адзін год, а на пяць гадоў, уключыць у яго патрабаваньні аб распаўсюджваньні на вас умоваў калектыўнай дамовы і г.д. Наймальнік ня зможа звольніць вас па п.5 арт. 35 ПК, паколькі вы пісьмова праінфармавалі яго аб згодзе працягваць працоўныя адносіны па кантракце.

Яшчэ адна акалічнасьць, якую трэба ведаць. Калі з вамі раней ужо быў заключаны кантракт, ягонае перазаключэньне на новы тэрмін, зьмены ўмоваў кантракту адбываюцца толькі па згодзе бакоў у адпаведнасьці з заканадаўствам (п.12 Палажэньня).

З усяго вышэйсказанага вынікае, што перавод усіх працоўных на кантракты безумоўна зьяўляецца парушэньнем іх правоў. Практыка выкарыстаньня Дэкрэту № 29 сьведчыць пра тое, што наймальнікі вельмі часта ігнаруюць патрабаваньні заканадаўства пры ажыцьцяўленьні такіх пераводаў. Але самае горшае ў гэтай сітуацыі, што чалавек пры заключэньні кантракту робіцца безабаронным, залежным ад адміністрацыі прадпрыемства. Пры практычнай адсутнасьці незалежных прафсаюзаў у краіне няма каму стаць у абарону правоў працоўных, акрамя саміх працоўных. Праз кантракты ўлады ствараюць зручную сістэму кантролю над грамадзтвам. На жаль, у Беларусь зноў вяртаецца сістэма усюдыіснага кантролю над грамадзянамі, такая знаёмая нам з часоў СССР. Людзей зноў прымушаюць маўчаць, баяцца і хлусіць. Адзіная дзяржаўная ідэалогія, кантроль над студэнтамі і моладдзю з дапамогай прымусовага ўступленьня іх у адзіную арганізацыю, кантракты па месцы працы – усё гэта зьвеньні аднаго ланцуга.

Падрыхтаваў
**Валянцін СУХАРЖЭЎСКІ.**

# Знайшлі "крымінал"

***У дачыненьні да кіраўніка Слонімскага грамадзкага аб'яднаньня "Воля да разьвіцьця" Міхася Варанца узбуджаная крымінальная справа па арт. 243 "Ухіленьне ад выплаты падаткаў"***

На 27 красавіка Міхась Варанец выкліканы да сьледчага для допыту ў якасьці падазраванага. Падставай дзеля ўзбуджэньня справы стала тое, што "Воля да разьвіцьця" нібыта парушыла парадак выкарыстаньня грашовых сродкаў, атрыманых у якасьці фінансавай дапамогі па праграме TACI S у 2003 годзе.

Сродкі, выдзеленыя ГА "Воля да разьвіцьця" дзеля рэалізацыі праекту "Падлеткавы клуб "Сьвятліца", згодна з пагадненьнем паміж урадам Беларусі і Еўракамісіяй, былі першапачаткова вызваленыя ад усіх падаткаў і плацяжоў у бюджэт. Аднак слонімская падатковая інсьпекцыя вырашыла кіравацца не міжнародным пагадненьнем (якое мае большую сілу за любыя ўнутрыбеларускія законы і падзаконныя акты), а інструкцыямі, якія прадугледжваюць выплату падаткаў з усіх праграмаў замежнай бязвыплатнай дапамогі.

З-за нібыта нявыплаты падаткаў 16 сакавіка была канфіскаваная маёмасьць ГА "Воля да разьвіцьця", і на арганізацыю накладзеныя штрафныя санкцыі на суму больш за 15 тысячаў даляраў. З улікам таго, што памер нібыта нясплочаных падаткаў падпадае пад вызначэньне буйнога, слонімская фінансавая міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу ў дачыненьні да кіраўніка арганізацыі сп. Варанца. Частка першая арт. 243 Крымінальнага Кодэксу прадугледжвае пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі на тэрмін да трох гадоў.

Адначасова з гэтым М.Варанец накіраваў у суд Слонімскага раёну скаргу на незаконныя дзеяньні лейтэнанта фінансавай міліцыі Уладзіміра Юрчака, які аказваў на яго псіхалагічны ціск і парушаў яго-ныя працэсуальныя правы.

Дадзеная крымінальная справа зьяўляецца аналагам той, якая ўзбуджаная ў адносінах да старшыні РГА "Беларускі Хельсінскі камітэт" Тацяны Процькі і бухгалтара арганізацыі Тацяны Рудкевіч. Іх таксама абвінавачваюць ў парушэньні парадку выкарыстаньня грошай, атрыманых па праграме TACIS.

**Юры ПАТОЦКІ.**

# Зьміцер Іваноўскі – яшчэ 15 сутак

28 красавіка ў Гародні пакаралі арыштам у 15 сутак Зьміцера Іваноўскага — намесьніка старшыні грамадзкага аб'яданьня прадпрымальнікаў "Перспектыва"

Як паведаміла Радыё Свабода, у будынак Ленінскага суда не пускалі нікога, хто прыйшоў на працэс над Зьміцерам Іваноўскім. А сабраліся каля трыццаці прадпрымальнікаў. Пяцёра міліцыянтаў ахоўвалі дзьверы, а насупраць увесь час дзяжурыла машына з амапаўцамі.

Міліцыянты таксама папярэдзілі, што тым больш забаронена пускаць журналістаў.

Увогуле разам з Іваноўскім дазволілі зайсьці толькі чатыром сьведкам з ягонага боку. Сярод іх быў і намесьнік галоўнага рэдактара газеты "День" Андрэй Пачобут. Яму адразу сказалі пакінуць на вуліцы ня толькі дыктафон і фотаапарат, але і ўсе рэчы, быў праведзены асабісты дагляд.

Судзьдзя па адміністрацыйных справах Наталя Козел выслухала сьведкаў і сказала пачакаць прысуду на вуліцы. А 18-й суд скончыў сваю працу. А ў 18.45 міліцыянты запусьцілі ўнутр толькі самога Зьміцера Іваноўскага, забаранілі ўвайсьці нават ягоным сьведкам. Праз пяць хвілінаў дзьверы Ленінскага суда замкнулі на ключ.

З чорнага ходу вывелі і пасадзілі ў "варанок" Зьміцера Іваноўскага. Ён толькі пасьпеў крыкнуць, што яму далі 15 сутак арышту.

## Дзеці ідуць па сьлядах бацькі

**30 красавіка ў Гародні міліцыянты затрымалі двух сыноў і дачку Валерыя Леванеўскага — кіраўніка незарэгістраванага страйкаму прадпрымальнікаў Беларусі. Затрыманых пасадзілі ў адну машыну і даставілі ў Ленінскі райаддзел міліцыі для разьбіральніцтва. Кацярыне — 17 гадоў, а яе братам Уладзіміру і Дзьмітрыю — 18 і 20 гадоў.**

**Уладзімер Леванеўскі з братам і сястрой раздавалі на рынку "Карона" ўлётку з паведамленьнем пра страйк прадпрымальнікаў, які плануецца ў траўні, ва ўлётцы быў таксама заклік прыйсьці 1 траўня на мітынг.**

# Ліквідацыі...

***16 красавіка*** рашэньнем Вярхоўнага суда Беларусі ліквідаванае Рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне "Новая група".

Падставай дзеля ліквідацыі стала неадпаведнасьць юрыдычнага адрасу рэальнаму. "Новая група" займалася валанцёрскай дзейнасьцю і была ў Беларусі прадстаўніком сусьветнай арганізацыі "Міжнародная грамадзянская служба", якая мае больш за 80-гадовую гісторыю.

***22 красавіка*** Вярхоўны суд Беларусі ліквідаваў адразу дзьве незалежныя арганізацыі — Беларускі цэнтр канстытуцыяналізму і параўнальна-прававых дасьледаваньняў і Міжнародны інстытут палітычных дасьледаваньняў. Абедзьве арганізацыі — дасьледчыя, але ў галінах, вельмі блізкіх да рэальнай палітыкі. Першая вядомая сваім супрацоўніцтвам з Радай Еўропы ў галіне правоў чалавека. За сем гадоў сваёй дзейнасьці Беларускі цэнтр канстытуцыяналізму і параўнальна-прававых дасьледаваньняў правёў некалькі канферэнцыяў па гэтых праблемах, надрукаваў 30 кніг. Сярод іх такія вядомыя працы як "Адмена сьмяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь" і "Палітычныя партыі ў Рэспубліцы Беларусь".

Навукоўцы з Міжнароднага інстытуту палітычных дасьледаваньняў вывучалі праблемы бясьпекі, міжнародных адносінаў, асаблівасьці палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

Абедзьве арганізацыі ліквідаваныя паводле ініцыятывы Міністэрства юстыцыі. У адным выпадку кантралёры з Мінюсту знайшлі хібы ў рэгістрацыйных дакументах, у другім – высьветлілі, што насуперак закону юрыдычны адрас знаходзіцца на прыватнай кватэры. Супрацоўнік Міжнароднага інстытуту палітычных дасьледаваньняў А. Фёдараў не выключае, што ліквідацыя арганізацыяў зьвязаная з падрыхтоўкай уладаў Беларусі да палітычных кампаніяў: да парламенцкіх выбараў, і да магчымага рэферэндуму аб зьменах у Канстытуцыі адносна трэцяга прэзідэнцкага тэрміну.

## У Віцеску арыштавана 11 чалавек

**26 красавіка ў Віцебску былі затрыманыя 11 удзельнікаў акцыі, прысьвечанай гадавіне Чарнобыльскай катастрофы. Сярод затрыманых: старшыня гарадзкой арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Алена Залеска, і актывісты гэтай партыі – Эла Канавалава і Уладзімір Семенчукоў. Былі затрыманыя некалькіх мінакоў, якія далучыліся да калоны ў час акцыі. Такім чынам былі затрыманыя пенсіянерка Роза Пушкарова і карэспандэнт Радыё Палёнія Юрась Сьцяпанаў, у якога знайшлі недзяржаўныя друкаваныя выданьні. З тае самае прычыны затрымалі і сябра КХП БНФ Яна Таўпыгу, які прайшоў разам з удзельнікамі акцыі усяго некалькі метраў, і студэнта медыцынскага ўніверсітэту Кастуся Кузьняцова – пра яго міліцыянты сказалі, што ён стаяў побач ды замінаў ім працаваць.**

**Яшчэ двум сябрам АГП – Фёдару Бакунову ды Сяргею Катушову – супрацоўнікі міліцыі на вуліцы наладзілі асабісты ператрус: у іхнім адзеньні ды рэчах яны таксама шукалі ўлёткі. Бо паводле супрацоўнікаў міліцыі, гэтыя ўлёткі ўтрымліваюць непажаданую інфармацыю пра наступствы Чарнобылю. На ўсіх затрыманых склалі пратаколы за адміністрацыйнае парушэньне – удзел у несанкцыянаванай акцыі.**


Фота "ПнВ"

# ДЗЕНЬ НАШАЙ ЖАЛОБЫ

(Пачатак на стар. 1-2)

А ў 18.00 быў арыштаваны актывіст партыі БНФ Андрэй Сухаверхі. Калі А.Сухаверхі выязджаў са двара, на ягоную машыну накінуліся людзі ў цывільным і спрабавалі спыніць яе, пры гэтым ніякіх пасьведчаньняў не паказвалі. Адзін з іх ударыўся аб капот машыны, якая рухалася на самай мінімальнай хуткасьці. А.Сухаверхі адразу спыніў машыну, калі зьявіліся супрацоўнікі ДАІ. У А.Сухаверхага забралі правы кіроўцы і пакінулі яго машыну на стаянцы Савецкага РУУС дзеля "правядзеньня экспертызы". А.Сухаверхі быў дастаўлены ў РУУС Савецкага раёну, дзе склалі пратакол з абвінавачваньнем ва "ўчыненьні ДТП".

27 красавіка судзьдзя суда Савецкага раёну г. Менску Наталя Скугарава вынесла рашэньне па адміністратыўнай справе Андрэя Козела — 7 сутак арышту. Актывіст Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Андрэй Козел быў затрыманы ўвечары 26 красавіка, пасьля заканчэньня акцыі "Чарнобыльскі шлях", і правёў ноч у сьпецпрыёмніку-размеркавальніку на вул. Акрэсьціна ў Менску. Яго абвінавацілі ў парушэньні арт 167.-1 ч.1 КаАП РБ (парушэньне парадку правядзеньня масавага мерапрыемства). Гэты артыкул прадугледжвае наступныя пакараньні – папярэджаньне, штраф ад 20 да 150 базавых велічыняў і арышт ад 3 да 15 сутак.

27 красавіка судзьдзя суда Савецкага раёну г. Менску Руслан Казадаеў заслухаў 6 сьведкаў у справе праваабаронцы Людмілы Гразновай. Л. Гразнова не аспрэчвала свой удзел у несанкцыянаваным шэсьці. Яна абуралася рапартамі супрацоўнікаў міліцыі, у якіх было запісана, што Гразнова нібыта крычала, заклікала станавіцца ў калону і размахвала рукамі. Людмілу Гразнову абвінавацілі ў парушэньні артыкулу 167.1- ч.2 КаАП РБ (парушэньне парадку і арганізацыі правядзеньня масавых мерапрыемтсваў). Руслан Казадаеў аштрафаваў Людмілу Гразнову на 225 базавых велічыняў (гэта каля 2 000 даляраў ЗША).


Фота "ПнВ"



Фота "ПнВ"

27 красавіка аднаго з арганізатараў акцыі "Чарнобыльскі шлях" намесьніка старшыні Партыі БНФ Алеся Міхалевіча абвінавацілі ў парушэньні артыкулу 167.1- ч.2 КаАП РБ (парушэньне парадку і арганізацыі правядзеньня масавых мерапрыемстваў). Судзьдзя суда Савецкага раёну г. Менску Аксана Рэлява вынесла прысуд – арышт на 10 сутак.

Ня ўсе арганізатары "Шляху" прыйшлі згодна з позвамі ў міліцыю. Павел Знавец прынцыпова выразшыў не ісьці. Генадзь Быкаў прыйшоў, але міліцыянты ўзялі ў яго тлумачэньні, прагледзелі відэастужку і адпусьцілі. Справа ў тым, што спадар Быкаў быў на плошчы ля каменю ахвярам Чарнобыльскай катастрофы і ў шэсьці ня ўдзельнічаў.

# "ВЯСНА" ў НАВАПОЛАЦКУ

***17-18 красавіка ў Наваполацку адбыўся міжнародны семінар "Пытаньні талерантнасьці ў беларускім грамадзтве і сьвеце". Арганізатарамі яго выступілі Праваабарончы цэнтр "Вясна" і швецкая праваабарончая арганізацыя "Svenska Freds". Гэтая арганізацыя за сваю больш як 120-гадовую гісторыю двойчы была ўзнагароджаная Нобелеўскай прэміяй міру.***

У працы семінару ўзялі ўдзел у асноўным прадстаўнікі віцебскіх праваабарончых арганізацыяў і грамадзкіх арганізацыяў "трэцяга сектару". Галоўным пытаньнем было абмеркаваньне праблемы талерантнасьці ў Беларусі. Тэмамі семінару сталі: "Уводзіны ў агульную тэорыю талерантнасьці", "Свабода сумленьня ў Швецыі", "Гісторыя гомасексуалізму ў Швецыі", а таксама "Дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў падчас выбарчых кампаніяў: збор і апрацоўка інфармацыі". Па гэтым пытаньні выступілі супрацоўнікі праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч, Уладзімір Лабковіч, Тацяна Рэвяка і Паліна Сьцепаненка.

Што такое талерантнасьць увогуле, як яе разглядаць у Беларусі, – на гэтыя пытаньні спрабавалі знайсьці адказы і беларусы, і шведы – юрысты, псіхолагі, праваабаронцы, студэнты. Беларусы лічаць сябе талерантнымі, памяркоўнымі, цярпімымі і цярплівымі. Але ці так ёсьць на самой справе? І што такое талерантнасьць насамрэч? Удзельнікі міжнароднага семінару ў Наваполацку шукалі адказу на гэтае пытаньне на працягу двух дзён. Паводле словаў наваполацкага юрыста Тацяны Кавальчук, тэма талерантнасьці даволі новая, ніхто раней не задумваўся, наколькі гэта важна ў сёньняшніх умовах.

— Гэты семінар, – сказала Тацяна Кавальчук, – вельмі важны менавіта таму, што тэма, якая на ім уздымаецца, па-першае, новая, а па-другое, тая, з якой сутыкаецца кожны ў сваім жыцьці. Калі чалавек ідзе ў краму, на кірмаш, калі ён размаўляе са сваім суседам... Праблема талерантнасьці гэта тое, што хвалюе кожнага, але людзі пакуль не ўсьведамляюць гэтае праблемы. У любым выпадку, калі лічыць, што талерантнасьць – гэта агульная катэгорыя, і яна мае на ўвазе, што людзі ўступаюць у актыўны кантакт, то трэба наладжваць вялікую колькасьць сустрэчаў паміж людзьмі, якія зьяўляюцца носьбітамі розных культураў, што ёсьць у сучаснай Беларусі. Да таго ж, гэта інфармаваньне, бо адсутнасьць інфармацыі цягне за сабою пэўныя стэрэатыпы, а яшчэ калі гэтыя стэрэатыпы падтрымліваюцца на ўзроўні СМІ, на ўзроўні афіцыйнае пазіцыі, то гэта цягне за сабою тое, што людзі думаюць: мы талерантныя. Яны абстрагуюцца ад іншых культураў, а таксама ад тых, хто на іх не падобны.

Паводле словаў супрацоўніка "Вясны" Тацяны Рэвякі, беларусы ўспрымаюць талерантнасьць як цярпімасьць і цярплівасьць, але гэта, мякка кажучы, не адно і тое ж.

– Як высьветлілася ў часе сустрэчаў, а ў Наваполацку гэта ўжо чацьвёртая сустрэча, – кажа Тацяна Рэвяка,– беларусы разумеюць пад талерантнасьцю цярпімасьць і цярплівасьць. І вось падчас семінару мы разьбіралі, што талерантнасьць – гэта не цярпімасьць і цярплівасьць, а здольнасьць захаваць свае перакананьні, прынцыпы і разам з тым успрымаць іншыя меркаваньні, лад жыцьця, сацыяльныя і палітычныя погляды. Вось гэта і ёсьць сапраўдная талерантнасьць. Чаму гэтая тэма зацікавіла наш праваабарончы цэнтр? У нас праводзяцца дасьледаваньні: у чым беларусы талерантныя, у чым – не. Да прыкладу, высьветлілася, што беларусы ня вельмі любяць чужых – чужых паводле нацыянальнасьці. Мы хацелі дасьледаваць гэтае пытаньне, бо неталерантныя адносіны могуць прывесьці да канфлікту. І мы высьвятлялі, дзе могуць быць гэтыя небясьпечныя крыніцы канфлікту – міжрэлігійнага, міжнацыянальнага. І пад час працы мы высьветлілі, што ёсьць гэтыя небясьпекі. Як прыклад Тацяна Рэвяка прывяла ўзбуджэньне крымінальнае справы ў дачыненьні групы віцебскіх студэнтаў, якія жорстка зьбілі сваіх замежных калегаў...

**Генадзь КЕСЬНЕР.**

# Артур ЛІЎШЫЦ: «Свабоды веравызнаньня ў яе найпростым разуменьні ў нашай дзяржаве не існуе»

***Намаганьнямі Грамадзянскай ініцыятывы «За свабоднае веравызнаньне» была наладжаная праца грамадзкай прыёмнай па праблемах парушэньняў правоў грамадзянаў на свабоду рэлігійных перакананьняў, сумленьня і веравызнаньня. Разам з выданьнем «Белай кнігі», а таксама штодзённым маніторынгам, які вядуць сябры Ініцыятывы, сталая праца прыёмнай стала яшчэ адным аспектам іх дзейнасьці. Любы чалавек можа зьвярнуцца па тэлефоне і распавесьці юрысту пра перасьлед ці свае праблемы. Большасьць зваротаў на гэтым этапе зьвязаная з уступленьнем у сілу нормаў новага закону «Аб свабодзе сумленьня» і перарэгістрацыяй рэлігійных аб'яднаньняў. На жаль, практыка паказвае, што свабода, пра якую гаворыцца ў дзяржаўным акце, застаецца ўсяго толькі дэкларацыяй... Пра першыя крокі ў працы грамадзкай прыёмнай распавядае сябра Грамадзянскай ініцыятывы «За свабоднае веравызнаньне», юрыст Артур ЛІЎШЫЦ.***

***— Прайшло некалькі месяцаў з часу заснаваньня грамадзкай прыёмнай. Што ўдалося зрабіць за гэты час?***

— Уся праца пакуль вядзецца на валанцёрскіх пачатках. Некалькі юрыстаў прымаюць звароты грамадзянаў па тэлефоне. Гэта дапамога ў тых межах, якія дазваляе нашае заканадаўства. Мы даем параду, раім, як рабіць у той ці іншай сітуацыі.

***— Якія пытаньні цяпер найчасьцей абмяркоўваюцца ў рэлігійных асяродках?***

— Камітэт па справах рэлігіяў вельмі зацікаўлены ў тым, каб усе рэлігійныя аб'яднаньні прайшлі перарэгістрацыю. Аднак ня ўсе хочуць прызнаваць новы закон, паводле якога праводзіцца перарэгістрацыя рэлігійных аб'яднаньняў. Некалькі пратэстанскіх дэнамінацыяў ня пойдуць на перарэгістрацыю, бо лічаць новы закон дыскрымінацыйным.

Асноўная праблема для тых, што ідуць на рэгістрацыю – гэта рэгістрацыя юрыдычнага адрасу. Фактычна любы сход вернікаў у доме ці на кватэры падлягае забароне і штрафу. Свабоды веравызнаньня ў яе найпростым разуменьні ў нашай дзяржаве не існуе. Прасіць дазволу ўладаў дзеля нейкіх рэлігійных дзеяньняў у сябе дома – гэта проста абсурд. Але таго патрабуе заканадаўства.

***— Ці ёсьць служба юрыдычнай дапамогі ў Камітэце па справах рэлігіяў?***

— Наколькі я ведаю, там такой службы няма. Кожны раз, калі якая-небудзь з рэлігійных арганізацыяў ці суполак падае дакументы на перарэгістрацыю, у іх Статуты ўносяцца папраўкі. Часам нашыя юрысты з гэтымі праўкамі нязгодныя. Некаторыя арганізацыі, якія лічаць, што свае правы трэба адстойваць, не прымаюць гэтыя "заўвагі" Камітэту. А іншыя, якія хочуць проста і спакойна перарэгістравацца і працягваць працаваць далей, лічаць, што іх гэта ня тычыцца. Яны проста пагаджаюцца патрабаваньнямі Камітэту. Грамадзянская ініцыятыва "За свабоднае веравызнаньне" адрозьніваецца тым, што ў яе ўваходзяць людзі розных дэнамінацыяў і розней канфесійнай прыналежнасьці. Гэтыя людзі выступаюць не за прыярытэт нейкай рэлігіі, а проста за свабоду верыць. Свабода ад дзяржавы, неўмяшальніцтва ў рэлігійнае жыцьцё грамадзянаў, аддзяленьне царквы ад дзяржавы – гэта нашыя прынцыпы. На сёньняшні дзень гэтага ў Беларусі няма. Наадварот, стасункі дзяржавы і царквы будуюцца на вызначаных прыярытэтах. Зараз прыхільнасьць нашай дзяржавы даволі празрыстая. Ніхто не хавае, што ўлады аддаюць перавагу праваслаўнай царкве. Заключаны шэраг дамоваў РПЦ з рознымі дзяржаўнымі ўстановамі. Аднак прапановаў і спробаў заключыць такое ж самае пагадненьне з іншымі канфесіямі няма.

***— Як далей будзе працаваць Ініцыятыва?***

— У нашыя планы ўваходзіць працяг працы па маніторынгу парушэньняў правоў веруючых на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Таксама мы робім маніторынг узаемастасункаў дзяржавы і рэлігійных аб'яднаньняў. Па выніках гэтай работы плануем выдаць наступную, ужо трэцюю, «Белую кнігу». Матэрыялаў шмат. Кожны дзень нешта адбываецца.

Грамадзянская ініцыятыва «За свабоднае веравызнаньне» выступае за нераспальваньне нацыянальнай і рэлігійнай варожасьці, якое спрабуюць правакаваць некаторыя структуры. Мы бачым яскравы прыклад: магазін «Праваслаўная кніга», дзе на паліцах можна знайсьці антыпратэстанцкую і антыюдэйскую літаратуру, якая скіраваная на распальваньне рэлігійнай варожасьці. Гэта кнігі ня толькі прывезеныя з Расіі, але і выдадзеныя на тэрыторыі Беларусі.

Штоквартальна мы выдаем бюлетэнь Грамадзянскай ініцыятывы «За свабоднае веравызнаньне». Мы маем вялікае жаданьне ўдзельнічаць у розных канферэнцыях і семінарах. Спадзяемся, што ў нас гэта атрымаецца. Таксама ў нашыя планы ўваходзіць арганізацыя грамадзкіх дыскусіяў з прадстаўнікамі розных рэлігійных арганізацыяў на тэму свабоды веравызнаньня.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ.**

## Зноў дыскрымінацыя

**На дзяржаўным цэнтралізаваным тэставаньні дыскрымінуюць беларускамоўных выпускнікоў. Пра гэта заявіла Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў сваім лісьце на імя міністра адукацыі РБ Аляксандра Радзькова**

**Тэставыя заданьні для выпускнікоў падрыхтаваныя толькі на рускай мове. Гэтым, заяўляюць тэбээмаўцы, Міністэрства адукацыі парушыла цэлы шэраг артыкулаў дзейнага заканадаўства, якое гарантуе школьнікам роўныя лінгвістычныя магчымасьці ў сферы адукацыі, — у прыватнасьці, артыкул 6 Закону аб мовах і артыкул 50 Канстытуцыі.**

**Яшчэ да пачатку цэнтралізаванага дзяржаўнага тэставаньня ТБМ накіравала міністру адукацыі свой пратэст у сувязі з тым, што тэставыя заданьні складзеныя толькі па-руску. У атрыманым адказе за подпісам дырэктара Рэспубліканскага інстытуту кантролю ведаў Міхаіла Фяськова, чыноўнікі заяўляюць, што тэставаньне добраахвотнае, а таму, маўляў, калі не разумееце па-руску, можаце не праходзіць тэсты. Цяпер тэбээмаўцы патрабуюць ад міністра службовага разьбіральніцтва сітуацыі.**

**Нагадаем, што па-беларуску цяпер у краіне працуе чвэрць школаў. Гэта пераважна вясковыя школы, выпускнікам якіх Аляксандр Лукашэнка абяцаў стварыць ільготныя ўмовы пры паступленьні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.**

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, англельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220012 Менск, а/с 20.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ПЦ "Вясна"*